 

У нумары: КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ ВА ЎСПАМІНАХ БЕЛЫХ | Што чуваць у беларускім спорце | Цвёрды мур


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 28 (283) | ГОД VII | БЕЛАСТОК 15 ЛІПЕНЯ 1962 | ЦАНА 60 ГР.


ГАЛЬЯШ ЛЕЎЧЫК*)

## Я багат, багаты

Я багат, багаты —  
Аж да смеху, слёз:  
Ні кала, ні хаты,  
Ні каня, калёс;

Ні гумна, адрыны,  
Пуні, ні хлявоў,  
Ні зярнят, мякіны,  
Ні свіней, кароў;

На адзежы латы,  
Хворы, худ і бос —  
Я багат, багаты,  
Аж да смеху, слёз...

*) Гальяш Леўчык нар. 20 ліпеня 1880 г. у Слоніме. Ад 1904 г. да 1944 г. жыў у Варшаве. Памёр у час эвакуацыі немцамі жыхароў Варшавы пасля падаўлення Варшаўскага паўстання.

АЛЯКСАНДР РАЖКЕВІЧ

## Заданне адно, але праца розная

Гайнаўскі павет займае невялікую плошчу, але мае шмат вёсак, параскіданых сярод невялічкіх ляскоў і па берагах Белавежскай пушчы. Гэта з'яўляецца прычынай таго, што шмат вёсак яшчэ не мае электрычнага святла, не мае радыё, а да некалькіх мясцовасцей цяжка і даехаць увосені ці вясною. І калі да такой вёскі трапіць драматычны гурток, або яшчэ «Лявоніха», стаецца гэта вялікім здарэннем. Але няма там месца, дзе можна было б зрабіць выступленне. Хаты малыя, а школа, калі ёсць, то цесная, а яшчэ горш, калі яна знаходзіцца ў кагосьці ў хаце. Па гэтай прычыне вельмі набалелым пытаннем становіцца будаўніцтва святліц, хаця б у той вёсцы, дзе ёсць сядзіба грамадскай рады. Зараз у Гайнаўскім павеце працуе 6 святліц, аплачваных з бюджэту грамадскіх рад у такіх мясцовасцях, як Белавежа, Даратынка, Нарва, Нараўка, Арэшкава і Кляшчэлі. Закончыць будову святліцы ў 1962 годзе плануецца ў Дубінах, Ласінцы і Палічнай. Праца гэтых святліц прабягае па-рознаму. На пахвалу заслугоўвае

(Працяг на стар. 5)

# Кастусь Каліноўскі ва ўспамінах прадстаўніка Белых

Мгр Т. ПЛЯЦКОЎСКІ

Мемуарная літаратура з'яўляецца сур'ёзнай крыніцай, дазваляючай глыбей вывучаць студзенскае паўстанне. Датычыць гэта асабліва малавядомых фактаў, або такіх, аб якіх нічога не гаворыцца ў іншых крыніцах. Выказваючы такое меркаванне, маем тут на думцы таксама і справу дзейнасці Кастуся Каліноўскага. На аснове мемуараў можам не толькі ўдакладніць факты, звязаныя з яго дзейнасцю, але і паказаць адносіны да яе з боку прадстаўнікоў паасобных палітычных груповак падчас паўстання — дзеячоў, прадстаўляючых лагер Чырвоных і Белых.

Асабліва цікавымі для нас будуць тут адносіны дзеячоў з лагера Белых — людзей, якіх погляды супярэчылі поглядам Каліноўскага. Як неўзабаве пераканаемся, Белыя займалі падвойную пазіцыю ў адносінах да Каліноўскага. Мусілі станоўча ацэньваць арганізацыйную дзейнасць гэтага чалавека, асабліва тады, калі неабходнасць застаўляла яго працаваць пад іх кантроляй; калі ж разыходзіцца аб грамадскія погляды Каліноўскага, дык у гэтым выпадку Белыя займалі незычлівую пазіцыю, лічачы яго прадстаўніком чужой сабе ідэалогіі. Адным словам, праводзілі своеасаблівы падзел — на Каліноўскага — арганізатара паўстання ў Літве і на Беларусі і Каліноўскага, як радыкальнага грамадскага дзеяча, аўтара «Мужыцкай праўды», хаця гэтыя два бакі дзейнасці рэвалюцыянера непарыўна паміж сабою перапляталіся.

Аўтарам мемуараў, на аснове якіх хачу абмеркаваць некаторыя бакі дзейнасці Каліноўскага і адносіны да яго Белых, з'яўляецца іх выдатны прадстаўнік у Літве, старшыня т. зв. Аддзела, загадваючага правінцыямі Літвы Якуб Гейштар.

Гейштар упершыню сутыкнуўся з Каліноўскім у Вільні, ужо пасля выбуху студзенскага паўстання. Каліноўскі, які ужо правёў арганізацыйную работу на Гродзеншчыне, дзейнічаў зараз у Вільні як член Камітэта руху, кіруючага падрыхтоўкай да паўстання ў Літве і Беларусі. Сустрэча Гейштара і Каліноўскага адбылася ў кватэры Францішка Далеўскага, з'яўляючагася таксама членам гэтага Камітэта.

У час сустрэчы Гейштару, які хацеў бачыць дваранства як сілу, узначальваючую паўстанне і які быў прыхільнікам абмежаваных рэформ па сялянскаму пытанню, вельмі не спадабаліся грамадскія погляды Каліноўскага. Успамінае ён, што «падчас першай сустрэчы (Каліноўскі) даказваў мне (г. зн. Гейштару), што ўдзел дваранства і памешчыкаў у паўстанні з'яўляецца не толькі лішнім, але і шкодным. Народ сам сабе здабудзе незалежнасць і будзе дамагацца сваёй уласнасці ад памешчыкаў. Як ласку лічыў ён дазвол, каб дваране маглі ісці ў паўстанцкія рады, аднак не ў сваіх паветах, а толькі там, дзе іх ніхто не ведае.

Гэтая размова выразна паказвае нам на радыкалізм Каліноўскага, які хацеў бачыць сялян рухаючай сілай паўстання і што, менавіта, яно павінна апрача незалежнасці прынесці вырашэнне грамадскага пытання на вёсцы. У Гейштара павінна была ўзнікнуць думка, што Каліноўскі толькі «пад энергічнай рукой — адзіны выканаўца...», што таму «небяспечнаму» чалавеку лепш не даваць залішне волі.

Неўзабаве пасля гэтай сустрэчы Віленскі камітэт руху быў распушчаны, а яго месца заняў Аддзел, загадваючы правінцыямі Літвы, апанаваны Белымі. Аддзел узначаліў Гейштар Зразумела, што Аддзел, у якім арудавала шляхта, згодна з яе жаданнямі змяніў дзейнасць падначаленых сабе арганізацый. Каліноўскі ўжо з самога пачатку прадбачыў такое вырашэнне спраў, таму што, як піша Гейштар, неадкладна накіраваў рапарт у Нарадовы жонд

(Працяг на стар. 4)



СЕНАКОС. Паўлы, Бельскі павет.  
Фота Ул. Юзвюк



БУДЗЕ ДОЖДЖ. Т. Чачкоўскі

ВАСІЛЬ БАРШЧЭЎСКІ

## Вёска на востраве

Калі б пастаяннаму жыхару горада выпадкова апынуцца ў вёсцы Боркі, на Сакольшчыне, ён, несумненна, не мог бы паўстрымаць воклічаў захаплення чароўнасцю аколіцы. Бо і сапраўды прырода не паскупіла гэтай загубленай сярод балот і лесу вёсцы маляўнічасці і прыгажосці, якая зачароўвае рэдкага тут наведвальніка. Сама вёска знаходзіцца быццам на востраве. Звілістымі стужкамі акружаюць яго тры рачулкі: з поўдня — Супрасль, з усходу — Слоя і з захаду — Сакалда. З поўначы зноў гэты невялікі астравок адрэзвае высокая сцяна старога, сасновага бору. Вакруг за сенажацямі кіламетрамі цягнецца густы лес. І нішто тут не парушае спакою і цішыні. Хіба толькі розгалосы канцэрт лясного птаства, які будзіць жыхароў Борак штодзённа да працы, а вечарам зноў сімфонія балотных жаб, якая ўкладае Боркаўцаў да сну.

— Ці ж гэта не цудоўна? — спытаеце.

— Так, але не для жыхароў Борак. Для іх чароўныя Боркі, гэта вельмі празаічная мясціна. От, вёска ў лясной глушы ды і толькі. Няма тут ні чыгункі, ні прыпынку ПКС, ні нават добрай дарогі. Да бліжэйшага мястэчка — Гарадка (дарэчы, Гарадок знаходзіцца ўжо ў Беластоцкім павеце) 15 кіламетраў. Самае блізкае мястэчка ў сваім, Сакольскім павеце, Крынкі, 25 кіламетраў.

Дажджлівай восенню, або вясной, калі растане снег і воды трох рачулак выступяць з берагоў, уся аколіца замяняецца ў дрыгву. Вёска на востраве ў такі час бывае зусім адрэзанай ад свету. Ані да яе прабрацца, ані з яе выбрацца. Сцюдзёнай зімой, калі лясныя дарожкі завее гурбамі снегу, таксама не лепш. Выйдзе ў вясковай краме газа ў такі час і некаторыя Боркаўцы асвятляюць хаты лучынай. І хоць гэта здараецца рэдка, а ўсё ж-такі напамінае сярэдневякоўе.

— Нялёгка век пражыць у такой глушы, — гаварылі мне ў Борках. — Да нас нават мясцовым уладам цяжка дастацца.

Мабыць з гэтай прычыны ў вёсцы назбіралася шмат спраў, якія прычыняюць столькі турбот яе жыхарам. А вырашэнне іх залежыць толькі ад мясцовых улад. Аб гэтых справах і расказалі мне ў Борках.

### ХОЦЬ У РАКУ ВЫЛІВАЙ

У Борках ёсць выдатныя ўмовы да павелічэння жывёлагадоўлі. Тут добрыя сенажаці, шмат пашы. Але жывёлы ў Борках, як на такія ўмовы, малавата. Ва ўсёй вёсцы налічваецца не больш чым 50 дойных кароў.

Прычына ў тым, што ў Борках няма ніякага збыту на малако.

— На свае патрэбы яго замнога і ад гэтых кароў, што трымаем, — гаварылі мне ў Борках, — а рэшту хоць ты ў раку вылівай.

Справа ў тым, што ў вёсцы няма зленні, і таму малака не прымаецца. Жыхары Борак ужо даўжэйшы час дамагаюцца пабудовы зленні, але Акругове праўленне ў Сакольцы заўзялося і ніяк не хоча ім дапамагчы ў гэтай справе.

— Зленню мы маглі б пабудаваць грамадскім чынам, — кажа солтыс, — толькі каб нехта пакіраваў гэтым.

(Працяг на стар. 5)

 

# Кангрэс міру ў Маскве

Першыя дні Сусветнага кангрэсу за раззбраенне і мір не спрыяюць яшчэ нейкім падсумаваннем і абагульненням. Адно толькі не падлягае сумненню, што гэты кангрэс адлюстроўвае найшырэйшыя, супольныя для мільёнаў людзей жаданні, каб жыць без знішчальных ваенных канфліктаў.

Ужо загадзя, перад распачаццем гэтай вялікай сустрэчы староннікаў міру ў Маскве, заходняя прапаганда намагалася знеахвоціць іх да выезду ў Савецкі Саюз. Факт выбару Сусветным саветам міру Масквы як месца кангрэсу гэтая прапаганда імкнулася тлумачыць жаданнем падпарадкаваць дэлегатаў «ідэйнай і палітычнай дактрыне камунізма». І што аказалася? Не пашанцавала гэтым спробам змяншэння значэння кангрэсу. У сталіцы СССР прыбылі 2000 дэлегатаў, прадстаўляючых 120 краін. Адзначым тут, што ў большасці выпадкаў дэлегаты не прадстаўляюць выключна самых сябе, ці нават вузкае кола сваіх сяброў, а з'яўляюцца прадстаўнікамі шырокай грамадскасці, якая выбрала іх на сваіх вялікіх кангрэсах у паасобных краінах.

Маскоўскі кангрэс міру не з'яўляецца таксама, як унушала заходняя прапаганда, ніякім з'ездам староннікаў ці прапагандыстаў камунізма; прадстаўляе ён, менавіта, цэлую рознароднасць дактрыны і палітычных поглядаў. Побач з камуністамі прымаюць у ім удзел звычайныя атэісты не звязаныя з ніякай рэлігіяй, а таксама светары розных веравызнанняў, напрыклад, англійскі канонік Колінс і заходненямецкі пастар Немёлер. У Маскве знаходзяцца французскія дэпутаты з дэголеўскай партыі УНР, італьянскія сацыялісты з партыі Нэні і амерыканскія квакеры, якіх адзінай ідэалогіяй з'яўляецца пацыфізм. Напэўна гэтыя людзі не прыехалі ў Маскву, каб вучыцца камунізму і ніхто не ставіў перад імі такіх патрабаванняў. Ужо першыя дні размоў паказалі, што Маскоўскі кангрэс з'яўляецца вялікім згуртаваннем людзей, якія, выходзячы з розных ідэйных, палітычных і маральных прадпасылак, даходзяць да аднаго агульнага вываду: што вайна не павінна і не можа быць для нікога мэтай жыцця на зямлі.

Ленін сказаў аднойчы, што развіццё тэхнікі паставіць у будучыні вайну ў сферы абсурду. Несумненна, сёння мы жывем у такім перыядзе. Знішчальная сіла сучаснай зброі, яе цяперашнія запасы хопяць, каб знішчыць усё, што на працягу стагоддзяў было створана цывілізацыяй, хопяць, каб знішчыць самае жыццё на зямлі. Для большасці людзей толькі самае ўсведамленне гэтага факту ставіць іх у радах абаронцаў міру. Перамога жыцця над смерцю і дружбы паміж людзьмі над варожасцю з'яўляецца адзінай пуцяводнай думкай Маскоўскага кангрэсу.

Гэты факт, што кангрэс адбываецца ў Маскве дазваляе, аднак, уявіць усім аб тым, якія дзяржавы і ўрады кіруюцца ў сваёй замежнай палітыцы прынцыпамі міру і суіснавання.

Мірная палітыка сацыялістычных дзяржаў — а ў гэтым выпадку Савецкага Саюза — не вынікае зрэшты з прынцыпаў гасціннасці гаспадароў кангрэсу. Аб гэтай палітыцы сведчаць шматлікія дыпламатычныя пачынанні на міжнароднай арэне.

Зусім інакш адказваюць на мірныя ініцыятывы сацыялістычных дзяржаў, а ў апошнім часе таксама і нейтральных Злучаныя Штаты і іх бліжэйшыя саюзнікі. Вось нядаўна, некалькі дзён перад пачаткам кангрэсу, у ЗША прынята новы бюджэт на 1962/63 г. г., у якім выдаткі на збраенні ўзрастаюць да сумы 58 мільярдаў долараў. ЗША не маюць сёння ніякіх умоў, каб склікаць у сябе Сусветны кангрэс за раззбраенне і мір.

Добра, што якраз у такой сітуацыі адбываецца кангрэс. Ён, менавіта, дае нам паняцце аб вялікай колькасці староннікаў міру і аб іх сур'ёзнай сіле ўплываў. Добра і тое, што адбываецца ён у Маскве. Гэты факт стварае магчымасці дзеля падтрымкі сусветнага лагера, які і з'яўляецца сёння самай надзейнай апорай міру.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

## Усеагульная забастоўка лясных рабочых у Белавежскай пушчы

8)

З годна з пастановай, Акруговае праўленне саюза рабочых драўлянай прамысловасці ўжо 9 снежня выдала загад усім сваім саюзным аддзяленням спыніць забастоўку. Пастанова гэта не была ўзгоднена з бастуючымі рабочымі, а таксама з Саюзам малазямельных сялян — прадстаўніком рабочых, якія мелі ўласныя гаспадаркі. Лясныя рабочыя не ведалі зместа дагавора. Яны даведаліся толькі, што іх патрабаванні дырэкцыя прыняла. Толькі 13 снежня, гэта значыць, на чацвёрты дзень ад часу прыступлення да працы, сабралася ў Чарлянцы Акруговая канферэнцыя дэлегатаў рабочых і сялянскіх цэнтраў. Упершыню Кужава і Патэр, складаючы справаздачу з перагавораў з дырэкцыяй, пазнаёмілі рабочых са зместам дагавора.

Дагавор выклікаў сярод дэлегатаў расчараванне. З крытыкай дагавора выступіў член ППС і прафсаюзны дзеяч у Чарлянцы Антон Тапаровіч. Яго падтрымала большасць прафсаюзных прадстаўнікоў і дэлегатаў ад малазямельных.

Недаверліва і асцярожна ўспрынялі вынікі перагавораў рабочыя Чарлянкі, Буд, Новага Гданска і Белавежы.

Гэтыя рабочыя заявілі, што поўнасцю салідарызуюцца з малазямельнымі і калі тыя прыступяць да барацьбы, яны будуць іх падтрымліваць. Становішча дзеячоў і актывістаў саюзных аддзяленняў ППС было даволі складанае. У шэрагу выпадкаў адзначаліся яны адсутнасцю паслядоўнасці. Падпарадкоўваліся яны саюзнай і партыйнай дысцыпліне.

Рашуча супроць дагавора выступілі дэлегаты малазямельных сялян. З вострай крытыкай дагавора выступілі ў час канферэнцыі В. Астроўскі і В. Навасад. Абвінавачвалі яны кіраўніцтва Акруговага праўлення ў прадажніцтве. Дагавор назвалі антысялянскім.

У выніку наступіў раскол. Некалькі дзесяткаў дэлегатаў ад малазямельных пакінула канферэнцыю. Перад тым яны заявілі, што не прызнаюць падпісанага дагавора. Падобны пункт гледжання заняў ЦК КПЗБ у сваёй адозве са студзеня 1933 г.

У ёй гаварылася, што ППС прадала рабочых за іх плячыма. Паказвала адозва таксама, што ў перыядзе калі забастоўка па свайму аб'ёму і баявому духу сталася ўсеагульнай, яны падпісалі з дырэкцыяй дагавор, каб не дапусціць да далейшага росту забастоўкі, каб спыніць яе. «У гэтым дагаворы не толькі прадалі шэраг патрабаванняў бастуючых, як касы хворых і фонд безработных, але згадзіліся на абніжэнне заробкаў для вясковых рабочых, каб гэтым чынам разбіць адзінства змагаючыхся рабочых і сялян». Далей Цэнтральны камітэт звяртаў увагу, што дырэкцыя сведама намагалася ўбіць клін паміж сялянамі і рабочымі. На гэта, менавіта, пайшло кіраўніцтва Акруговага праўлення і шэраг дзеячоў ППС у Гайнаўцы.

КПЗБ была за працягваннем забастоўкі, пакуль дырэкцыя не выканае ўсіх патрабаванняў рабочых.

Аднак КПЗБ не абмежавалася толькі дэкларацыямі. Яна прыступіла да практычнай дзейнасці. Пакінуўшы канферэнцыю, дзеяч КПЗБ В. Навасад паехаў у Бельск. Тут ён сустрэўся з Эдуардам Грыневічам, які быў сакратаром ПКР ППС і адначасова сакратаром праўлення аддзела прафсаюза малазямельных сялян. Абмяняўшыся думкамі, вырашана аб'явіць забастоўку вазакоў, якія выводзіліся перадусім з малазямельных сялян. З гэтай мэтай быў створаны агульнапушчанскі забастовачны камітэт. У выніку гэтага пагаднення ўжо 17 снежня ў Белавежы адбылася нарада дэлегатаў Саюза малазямельных сялян. Удзельнічала ў ёй 79 прадстаўнікоў паасобных вёсак гмін Белавежы, Масева і Сухопаля. Нарада аднадушна пастанавіла абвясціць новую забастоўку. Дагавор падпісаны Акруговым праўленнем з дырэкцыяй, прызнана неабавязваючым малазямельных.

Свае патрабаванні да Дырэкцыі дзяржаўных лясоў у Белавежы выставілі яны ў форме «Мемарыяла малазямельных». У ім перадусім патрабавалася павышэння аплаты за вывазку сыравіны.

Белавежская канферэнцыя паклікала таксама Цэнтральны забастовачны камітэт, які меў быць кіруючым органам у падрыхтоўцы, а затым і ў правядзенні забастоўкі. У склад яго ўвайшлі Вітальд Астроўскі, Вінцук Навасад, Эдуард Грыневіч, Хведар Шварла і Цабай. Старшынёй камітэта выбраны быў Вінцук Навасад.

### Пачатак забастоўкі малазямельных

## БЕЛАСТОЦКАЯ ХРОНІКА

3 ліпеня ў Беластоку адбылося пленарнае пасяджэнне Эканамічнай камісіі Галоўнага савета Таварыства развіцця заходніх зямель, на якім абмеркавана праграму гаспадарчай актывізацыі слаба развітых паветаў.

*

4 і 5 ліпеня ў Беластоку адбылася нарада прадстаўнікоў аддзелаў воднай гаспадаркі прэзідыумаў ваяводскіх радаў нарадовых з усёй краіны і прадстаўнікоў Цэнтральнага бюро воднай гаспадаркі. Удзельнікі нарады абмеркавалі рэалізацыю заданняў воднай гаспадаркі ў гэтым годзе, а таксама план на будучы год.

*

7 ліпеня ў тэатры імя Ал. Вянгеркі ў Беластоку адбылася ўрачыстая акадэмія ў сувязі са святкаваннем 40-годдзя Міжнароднага дня каапераціі.

*

7 і 8 ліпеня ў гонар XX гадавіны ППР і V Кангрэсу прафсаюзаў, а таксама дзеля ўшанавання памяці змагароў за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне, Саюз прафсаюзаў тэкстыльшчыкаў у Беластоку супольна з аддзелам ПТТК пры фабрыцы імя Сяржана, арганізаваў маторны рэйд «Шляхам барацьбы тэкстыльшчыкаў Беласточчыны».

*

7 ліпеня ў сувязі з чацвёртай гадавінай стварэння гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, у памяшканні Таварыства адбылася сяброўская вечарына актывістаў Аддзела. Між іншымі, на вечарыне выступіў Алесь Барскі, які расказаў аб жыцці і творчасці Янкі Купалы.




### Генрых выконвае прысуд

Моніка была здзіўлена весткаю пра прыезд сваёй «сваячкі» з Банвіля. Чаму Людвіна прыязджае якраз цяпер, калі становішча так небяспечнае?

— А ў яе ёсць пропуск на прыезд? — спытала Моніка ў Франсуа.

— Я ведаю не больш за цябе. Прыязджае Людвіна Дэкок, трэба яе сустрэць — вось і ўсё, пра што мяне паведамілі.

— А якім цягніком?

123

— Сёння ў шаснаццаць дваццаць.

— Добра, я сустрэну яе.

— Сустракаць пойдзем удвох. Але не разам — ты мяне, а я цябе не прыкмячаем. Той, хто першы ўбачыць Людвіну, змяшаецца з натоўпам і пойдзе побач яе, не паказваючы, што з ёй знаёмы. Другі, пачакаўшы дзве-тры хвіліны, будзе ісці ззаду і назіраць, ці ніхто за ёй не сочыць. За вакзалам той, хто сустрэў Людвіну, робіць ёй знак спыніцца ля крамы з вадой. Нічога ж дзіўнага, што двое пасажыраў спыніліся, каб напіцца вады. Той, хто будзе назіраць ззаду — праходзіць каля іх. Калі ён пераканаецца, што за Людвінай ніхто не сочыць — можа далучыцца да кампаніі. Калі ж прыкмеціць нешта падазронае, праходзіць далей. Ясна?

— Усё, апрача таго, што рабіць таму, хто будзе піць ваду з Людвінаю каля крамы?

— У выпадку небяспекі ён, не азіраючыся, пойдзе далей, а Людвіна ўжо не яго клопат. Паблізу будуць нашы людзі, якія маюць адпаведныя інструкцыі.

Моніка не магла супакоіцца. А мо' Людвіна мае прывезці нейкія важныя звесткі? Дык яе прыслалі тыя, хто кіруе ўсімі макі. Франсуа пра гэта не гаварыў, але яна не малая і сама здагадваецца: хапіла было сказаць «сваячцы» нумар цягніка са зброяй і час яго адыхода з Банвіля, і эшалон пайшоў пад адхон. А цяпер яна вязе нейкія важныя заданні ім.

Моніка выходзіць на перон і праходзіць побач гестапаўцаў да газетнага кіёска. Купіўшы газету, яна ўважліва разглядае на апошняй старонцы моды.

124

Цягнік спыніўся. Ёй трэба зрабіць выгляд, што яна з жаночай цікавасцю аглядае туалеты дам, мераючы кожну з ног да галавы. Але ў якім вагоне Людвіна? Ага, вось у акне трэцяга ад канца цягніка мільгануў яе твар. Вось Людвіна выходзіць. На ёй — светлае моднае паліто і чорны маленькі капялюш, што так цудоўна адцяняе залацістыя валасы. Сапраўды элегантная дама, нікому і на думку не прыдзе. Божа, што гэта?!

Так, сталася!.. Адзін гестапавец справа, другі злева, трэці ззаду. Людвіну арыштавалі! Ці ўбачыў гэта Франсуа? А калі ўбачыў, чаму не кінуўся на дапамогу?

Моніка робіць крок наперад і сустракае суровы позірк. У суправаджэнні гестапаўцаў Людвіна знікае ў дзвярах вакзала.

У Монікі хапіла сіл не крыкнуць, калі побач яе праводзілі арыштаваную, але ў вачах яе пацямнела. Дзяўчына вымушана была прытуліцца да сценкі газетнага кіёска, каб не ўпасці.

— Ідзі дамоў і не рабі глупстваў! — нібы аднекуль здалёк даляцеў да яе слыху сярдзіты шэпт Франсуа.

Моніка павярнулася і памалу пайшла з перона. Перад яе вачыма стаяў твар Людвіны. Няўжо яна

125

# Што чуваць у беларускім спорце?

### АЛЯКСАНДР МЯДЗВЕДЗЬ — ЧЭМПІЁН СВЕТУ

На адбыўшымся нядаўна ў амерыканскім горадзе Таледа чэмпіянаце свету па вольнай і класічнай барацьбе вялікага поспеху дабіўся беларускі барэц Аляксандр Мядзведзь. Ён заваяваў залатую медаль і званне чэмпіёна свету.

### ПОСПЕХ БЕЛАРУСКІХ ФЕХТАВАЛЬШЧЫКАЎ

У Маскве закончыўся турнір мацнейшых фехтавальшчыкаў краіны. Гэты турнір з'яўляецца адборачным да маючага адбыцца першынства свету. Пасяхова выступілі беларускія фехтавальшчыкі Д. Нікалчыкава, Г. Самусенка, С. Баранава, А. Нікалчыкаў, А. Паўлоўскі, А. Чарнушэвіч і Ю. Смалякоў. Яны ўвайшлі ў склад зборнай каманды краіны.

### У НАДЗЕЙНЫЯ РУКІ

У кожнага спартсмена ёсць свая рэліквія. Адзін як зрэнку вока захоўвае бегавыя туфлі, у якіх ён устанавіў некалі рэкорд. Для другога спартыўная біяграфія звязана з якім-небудзь спартыўным снарадам.

Лёгкаатлетычны молат, аб якім пойдзе размова, не зусім звычайны. Гэта «крываносаўскі» молат. Нямы сведка бліскучых перамог свайго гаспадара на многіх замежных стадыёнах. Сведка і «ўдзельнік» сусветных дасягненняў.

Ужо некалькі гадоў ён нерухома ляжаў побач са спартыўнымі трафеямі. Ляжаў і чакаў... новага гаспадара. Новых моцных рук і такога ж майстэрства.

— Свой молат, — сказаў Міхаіл Пятровіч Крываносаў пасля адыходу са спартыўнай арэны, — я падару таму з беларускіх мятальнікаў, хто першым пакажа вынік вышэй майго лепшага дасягнення.

У той год, калі М. Крываносаў устанавіў свой рэкорд, шосты сусветны рэкорд — 67 м 32 см — Аляксей Балтоўскі толькі пачынаў выступаць. Тады яго лепшы вынік быў амаль на 10 метраў горшым. Але побач з Аляксеем знаходзіўся не толькі трэнер, але і блізкі таварыш і памочнік — М. П. Крываносаў.

А. Балтоўскі пераняў ад М. Крываносава не толькі лепшае ў яго тэхніцы мятання, але і ў методыцы трэніроўкі, уменні канцэнтраваць сваю волю да дасягнення перамогі. Вынікі раслі марудна, але верна. Нарэшце настаў дзень, калі Аляксея ўпершыню назвалі мацнейшым мятальнікам молата ў рэспубліцы. Але вынік М. Крываносава ўсё ж заставаўся неператзыйдзеным.

І вось чэрвень 1962 года. Варшава. Мемарыял Януша Кусацінскага. Цэнтральны нумар першага дня — мятанне молата. Брасок, і снарад кладзецца на адзнацы 67 м 37 см. Ёсць! Ажыццявілася мара. А молат, быццам пераадолеўшы нябачаную перашкоду, клаўся з кожнай спробай усё далей і далей. Канчатковы вынік — 67 м 60 см! Цяпер гэта новы рэкорд рэспублікі і толькі нямногім больш метра горшы за афіцыйны ўсесаюзны рэкорд.

Калі з Варшавы ў Мінск прыйшла вестка аб выдатнай перамозе і высокім выніку беларускага майстра, М. П. Крываносаў сказаў:

— Я рад, што маю ўмову выканаў іменна Аляксей. Упэўнены: свой снарад я перадаю ў надзейныя рукі.

# НОВАЯ ЗМЕНА



Група кандыдатак у Бельскім ліцэі рыхтуецца да экзаменаў.



У час экзаменаў па беларускай мове ў Бельскім ліцэі.

Не паспелі пакінуць мураў Беларускіх ліцэяў у Бельску і Гайнаўцы сёлеташнія абсальвенты, а ўжо на школьных калідорах загаманіла новая змена. Гэта кандыдаты — вучні і вучаніцы нашых пачатковых школ.

Да экзаменаў у Беларускім ліцэі ў Бельску прыступіла 111 кандыдатаў, а прынята ў выніку паспяхова здадзенага экзамену 61 асоба. Члены экзаменацыйнай камісіі згодна адзначаюць, што сёлеташнія кандыдаты аказаліся значна лепш падрыхтаванымі да ўступных экзаменаў, чым у мінулым годзе. Такая станоўчая з'ява наглядаецца таксама і ў Гайнаўскім ліцэі. На агульную колькасць 98 асоб, якія прыступілі да экзаменаў, здалі іх 73 асобы. Варта яшчэ падкрэсліць, што ў час сёлеташніх уступных экзаменаў перад новымі кандыдатамі былі пастаўлены большыя вымаганні, чым у мінулых гадах.

Эмка

Фота: У. Юзвюк



У дзень уступных экзаменаў перад уваходам у Гайнаўскі ліцэй.

# НА ВЯСКОВАЙ СЦЭНЕ

Зала святліцы ў Чыжах пахне свежасцю. Падлога чыста вымыта, зялёныя галінкі дрэў упрыгожваюць залу і даюць цудоўны пах ліпы. У цэнтральным месцы віднее партрэт Я. Купалы, а пад ім — надпіс на беларускай мове «Дні беларускай культуры». Зала штораз больш напаўняецца дарослымі і дзяцьмі, Заглядаю за куртыну. Апошнія прыгатаўленні да, выступлення. Характарыстыку наводзіць адна другой. Хлопцы бегаюць, дастаўляюць усё апошняе з дому і магазіна, робячы гэта вельмі хутка і спрытна.

Наступіў час выступлення. Людзей аж страх бярэ ад задавальнення. Каля 400 пар вачэй углядаецца, хто першы выступіць. Кіраўнік гуртка Генрыка Кульчакевіч адкрывае ўрачыстасць, аддаючы голас прадстаўніку Беларускага Таварыства ў Гайнаўцы — Веры Юшчук.

Вера Юшчук расказвае аб жыцці і творчасці нашага вялікага паэта Янкі Купалы. З цікавасцю ўсе слухалі. Настаўнікі падрыхтавалі вершы Я. Купалы. Вера Юшчук спыняе расказ, даючы слова малым хлапчукам, якія вельмі хваляваліся, стоячы за куртынай. Першым выступіў Валодзя Трафімюк з VII кл. з вершам «Мужык». За некалькі хвілін выступіў Янка Кірылюк з VII кл. з вершам «Вёска». Апошні перыяд творчасці Я. Купалы запачаткаваў Вася Лукашук з III кл. вершам «Заўсёды наперад». Расказ пра Янку Купалу дабег канца. Людзям, якія слухалі, напэўна не будзе чужое імя Я. Купалы. Затым інструктар Вера Юшчук уручыла дыплом кіраўніку мастацкага гуртка Генрыцы Кульчакевіч і дыплом драматычнаму гуртку. Гэта была сапраўды ўрачыстая хвіліна, а перадусім тады, калі кіраўнік Г. Кульчакевіч сказала: «Мы будзем старацца яшчэ шырэй развіваць беларускую культуру».

Затым пачаліся пастаноўкі. Першай сцэнкай была «Толькі так» Валянціна Зуба. Людзі ўважліва слухаюць, а разам і стараюцца знайсці сваіх знаёмых, суседзяў а нават дзяцей сваіх, якіх тут на сцэне трудна пазнаць. Дэкарацыя сцэны вельмі багатая і характэрная для беларускага асяроддзя (дываны, макаткі, вышыты настольнік). Ролю бабулькі Марылі Антаноўнай грае Вера Савіцка. Выконвае Вера сваю ролю вельмі добра. Амаль усе гледачы найбольш цешыліся, калі на сцэну выходзіць грубая бабулька. Не меншай папулярнасцю цешыўся Янка Хіліманюк, які выконваў ролю сябра Ігара, Юрка Яглоўскага. Сцэна канчаецца добра для ста-

(Працяг на стар. 7)

---

загіне ў руках катаў? Моніка адчула, як хваля холаду прайшла па ўсім яе целе.

Моніка накіравалася да Генрыха.

— Што з вамі, Моніка? Вы ўся белая?

Генрых і сам збялеў, убачыўшы дзяўчыну ў такім стане. Моніка, не адказаўшы, упала на крэсла. Гарачыя далоні Генрыха сціскалі яе пахаладзеўшыя пальцы. Даверыцца яму, сказаць праўду, ён мусіць дапамагчы выратаваць Людвіну!

— Генрых, тое, што вы зараз пачуеце, я, мабыць, і не маю права вам казаць. Але ў мяне няма выйсця. Арыштавалі сваячку, якую вы бачылі ў Банвілі. Яна ехала да нас. Кожную хвіліну могуць арыштаваць і мяне. Што мне рабіць? Можаце вы мне ў нечым дапамагчы?

Генрых сціснуў пальцы дзяўчыны так, што яна амаль не крыкнула.

— Я зраблю ўсё, магчымае, Моніка.

Калі Моніка пайшла, Генрых паклікаў Курта і загадаў яму заказаць у мадам Тарваль шэсць пляшак кан'яку, лімонаў, цукру і ўсё гэта аднесці ў машыну.

— Кудысьці паедзем, гер обер-лейтэнант?

— Паеду я сам. А зараз крыху засну.

Але заснуць не мог. Сон праганяла не толькі трывога за Моніку, але і сумненні.

«Ці маю я права брацца за гэту справу!» Зноў і зноў пытаў сябе Генрых.

126

Пасля выбуху ў Банвілі яго папярэдзілі, што ён не павінен падвяргаць сябе рызыку. Выходзіць, ён збіраецца парушыць наказ! Ён можа ісці на рызыку толькі ў крайнім выпадку. Але моўчкі глядзець, як небяспека павісае над галовамі сумленных людзей! Дык калі Людвіна не вытрымае і прызнаецца, што ехала да Монікі...

Генрых адчувае, што яго ўсяго абсыпае марозам ад адной думкі, што дзяўчына можа трапіць у кіпцюры гестапаўцаў. Не, ён гэтага не можа ўявіць! Тым больш, што сам зацягнуў яе пад гэты абух. Калі б ён не сказаў ёй пра цягнік са зброяй, яна не паехала б у Банвіль, не сустракалася б са сваячкай, і ўсё зараз было б добра. Але ж ён хацеў, каб зброя не трапіла да месца прызначэння, і толькі праз Моніку мог папярэдзіць макі! А калі так?..

Генрых схапіўся з ложка. Так! Як жа ён не падумаў пра гэта адразу! Адзіная крыніца, з якой Моніка магла даведацца пра цягнік — ён сам, Генрых фон Гольдрынг! Вось, у выпадку арыштавання Монікі яму давядзецца даваць афіцыйныя тлумачэнні. І правал яго, як разведчыка, тады непазбежны.

Вечарам Генрых паехаў да Мілера. Мілер быў у сябе ў кабінеце не сам — насупроць яго сядзеў малады, вельмі прыгожы афіцэр у форме лейтэнанта.

— Знаёмцеся, дарагі Генрых, мой намеснік, што вярнуўся з водпуску, лейтэнант Заўгель.

Неўзабаве прывезеныя Генрыхам рэчы апынуліся

127

на стале. Мілер ад задавальнення прыцмокнуў.

— Тады першы тост за вашу нарачону! Але, Генрых, хто яна, гэтая будучая баранэса?

— Лора Бертгольд.

— Дачка генерала-маёра Бертгольда? — перапытаў Заўгель. — Цудоўная партыя!

Усе трое дружна выпілі. Генрых наліў яшчэ па адной чарцы.

— Ну, цяпер, барон, вам сам Бог загадаў пераходзіць да нас на работу.

— Гер Мілер мае рацыю, — падтрымаў Заўгель. — Уявіце, як бы мы ўтрох цудоўна працавалі!

Кан'як пачынаў дзейнічаць. Неўзабаве Заўгель добра ап'янеў.

— Дык прымаеце маю прапанову, Генрых? — спытаў Мілер.

— Я мушу параіцца з бацькам.

— Я ўпэўнены, што гер Бертгольд згодзіцца. Дык вып'ем за яго згоду! І за тое, каб мы хутчэй пабачылі тут баранэсу Лору Гольдрынг! — падняў сваю чарку Мілер.

— Баюся, што гэта будзе не так хутка! Жаніцца мы вырашылі толькі пасля заканчэння вайны. Але заручымся ў лютым:

— І вы хочаце пераканаць мяне, што ўвесь час будзеце вясці сябе, бы святы Антоні? — усміхнуўшыся, спытаў Мілер.

(Працяг на стар. 4)

128

# Кастусь Каліноўскі ва ўспамінах прадстаўніка Белых

(Працяг са стар. 1).

у Варшаву, у якім пратэставаў супроць перадачы ў рукі шляхты кіраўніцтва над паўстаннем. Нягледзячы на ўсё гэта і жадаючы служыць паўстанню, Каліноўскі без вагання запрапанаваў свой удзел у працы Аддзела. Спачатку быў назначаны памочнікам начальніка Вільні.

Паміма супрацоўніцтва з Аддзелам напэўна думаў аб сваім вызваленні спад «энергічнай рукі» Белых, каб распачаць дзейнасць згодна з кірункам, якога быў староннікам. І вось неўзабаве з'явілася такая магчымасць. Трывожныя звесткі аб нячздатнасці паўстанцкай арганізацыі, якія напэўна мусілі паступаць у Аддзел, заставілі Гейштара выслаць на Гродзеншчыну спецыяльнага камісара, які б правёў рэарганізацыю мясцовых паўстанцкіх улад. Для Каліноўскага гэта была аказія вырвацца спад «апекі» Белых, а апрача таго ён напэўна ўжо даўно марыў аб аднаўленні сувязяў з Гродзеншчынай, на якой ужо раней працаваў. Дык у выніку запэўнення, што на тэрыторыі Гродзенскай губерні Белыя маюць шырокі ўплыў, Гейштар вырашыў выслаць Каліноўскага ў Гродна. Аднак мусіць добра яшчэ памятаў аб размове ў Далеўскага і быў дастаткова ўпэўнены, што Каліноўскі з'яўляецца «...дасканалай рукой для выконвання загадаў, якія б сам падзяляў», калі вырашыў забяспечыць яго не толькі інструкцыямі аб спосабах узмацнення арганізацыі, але таксама даў яму асабістыя даручэнні аб адносінах да мясцовай шляхты. І тут дайшло да вострага сутыкнення поглядаў паміж Каліноўскім і старшынёй Аддзела. Каліноўскі напэўна ізноў закрануў пытанне ролі сялянства ў паўстанні і гаварыў аб неабходнасці спалучэння справы паўстання з грамадскімі пераменамі. Асновай для такіх меркаванняў можа быць катэгарычны загад Гейштара, які хацеў, каб «...не адштурхіваць ад сябе шляхту і памешчыкаў, каб лічыць яе магутнай, неабходнай у паўстанні сілай, лічыць ажыўчым духам».

Каліноўскі толькі ўяўна згадзіўся з інструкцыямі Гейштара і зусім не думаў уводзіць іх у жыццё. Калі толькі Каліноўскі вырваўся спад «апякунства» Белых і апынуўся на Гродзеншчыне, распачаў працу, згодную са сваімі поглядамі. Як вынікае з мемуараў, Каліноўскі замяніў часткова на Гродзеншчыне людзей, кіруючых паўстанцкай арганізацыяй. Падабраў сабе такіх, якія падзялялі яго імкненні. Гэйштар з абурэннем успамінае аб адным з такіх супрацоўнікаў — ксяндзу Чаповічу, які адкрыў перад жонкай старшыні Аддзела свае погляды, прапаведваючыя «забойствы і пажарышчы». У сапраўднасці ж напэўна разыходзілася тут аб прынцыпы рэвалюцыйнай барацьбы з дваранствам за правы для сялянства.

Нягледзячы на нараканні, на няўдала падабраных людзей, Гейштар мусіў прызнаць, што Каліноўскі «...вельмі энергічна дзейнічаў у Гродна і мусіць нідзе рэарганізацыя не была праведзена з такой дакладнасцю». Не ведаў, што, менавіта, дзякуючы гэтым людзям, з такімі, а не іншымі поглядамі, мог Каліноўскі ўзмоцніць паўстанцкую арганізацыю на Гродзеншчыне.

**мгр ТОМАШ ПЛЯЦКОЎСКІ**

## Жанчыны, у «НІВУ»



Да здымка хацела апрануць іншую кофту, «бо ў гэтай то так па-гаспадарску». Але я не згадзілася.

Называецца Ольга Пятроўская. З Галадоў, што па шашы з Бельска ў Гайнаўку. Пад яе апекай: муж, трох сыноў (таксама каровы, свінні, куры). Узрост — 41 год. Адукацыя? 7 класаў. Калі закончыла? У 1962 годзе. Дзе? У вячэрняй школе ў сваёй вёсцы. Так выглядаюць найважнейшыя анкетныя даныя адной жанчыны.

«Я аж дрыжала за школай» — кажа Ольга Пятроўская.

Ольга Пятроўская расказвае мімаходам, як яна нагаворвала знаёмых суседак — маладых дзяўчат, каб разам хадзілі вучыцца, як тлумачыла, што «цяпер трэба мець хоць тыя сем класаў».

Але яе маладыя суседкі не дрыжаць за школай. Ці таму, што няма ў іх ніякіх перашкод, каб хадзіць у яе? А Ольга Пятроўская мае поўную рацыю: **цяпер трэба мець хоць тыя сем класаў.** За 4—5 год маладым трэба будзе мець яшчэ больш. І так далей. І так вышэй. Польшча — краінай людзей, якія вучацца. А ўжо даўно

### Цяпер трэба мець хоць тыя 7 класаў

людзі дайшлі да вываду, што вучыцца ніколі не позна. Ольга Пятроўская з Галадоў даказала гэта выразна на ўласным прыкладзе.

Мне часта даводзіцца гаварыць з вясковымі жанчынамі. Як жа многія з іх загуканыя працай, штодзённымі клопатамі, не бачаць, не знаюць «прасветлай гадзіны». Жыццё праходзіць манатонна, шэра, нецікава. З Ольгай Пятроўскай я гаварыла з прыемнасцю. Магчыма, што Ольга Пятроўская па сваёй натуры жанчына адважная (не пабаялася ж цяжкасцей пры здабыванні адукацыі), але як і сама яна сцвярджае, многа добрага і радаснага дала ёй гэта двухгадовая вучоба ў вячэрняй школе. Ну і задаваленне, што закончыла, што вытрымала, што нарэшце, на апошнім экзамене ў дыктоўцы зрабіла толькі адну памылку, і адзіная на ўвесь курс атрымала чацвёрку.

Ці цяжка было Ользе Пятроўскай? Смешнае пытанне. Нібы яна не чалавек, ці як кажуць — чалавек з жалеза. Але нішто ў жыцці лёгка не прыходзіць.

Ольга расказвае: работы было нямала. Гаспадарка ж. Тры парсюкі закантрактавала, восем у хляве. Заняткі ў школе адбываліся ад 6 да 11 вечарам. Вельмі часта не было часу пад'есці. То бывала на хаду, бегучы ў школу, ем. А прыходжу дадому — даю кароў. У тэтым годзе ўжо хацела кінуць, але старэйшы сын (вучыцца ў сярэдняй школе — В. Л.) адмовіў. «Хадзі, мама». Сярэдні сын таксама ў сёмым класе вучыўся. То мы разам з ім сядалі і адраблялі ўрокі. Па адных кніжках. Вучымся і пытаем адзін другога, перапытваем. Ведаеце, як мой почырк вырабіўся праз гэты час!».

Двое дзяцей Ольгі вучыліся ў мясцовай пачатковай школе. Вучыліся добра. Настаўнікі кажуць, што ў гэтым вялікая заслуга іх маці, якая вельмі цікавіцца вучобай і паводзінамі сваіх сыноў. Яна знойдзе час, каб нават акрамя «вывядувак» пайсці да настаўнікаў, пагаварыць, пацікавіцца поспехамі сваіх дзяцей. Настаўнікі маюць рацыю. Зацікаўленне бацькоў вучобай сваіх дзяцей вельмі памагае ім у ёй. На жаль большасць вясковых бацькоў не разумее гэтага. Але гэта будзе тэмай асобнага артыкула.

**ВЕРА ЛЕЎЧУК**

## ЦВЁРДЫ МУР

Ад гэтага часу шмат ужо вады праплыло ў рэчках Беласточчыны, але хіба ўсе яшчэ добра памятаюць майскія дажджы. Дзень і ноч цякло нам на галавы без літасці і перапынку. Мая суседка Яўдокія, якая нават ноччу падчас сну не расстаецца з біблія́й, быццам індыйскія свяшчэннікі, прадказвала канец свету і ўпарта агітавала мужыкоў, каб у рамках грамадскага чыну прыступілі да пабудовы сучаснага каўчэга Ноа. Ну што ж? Цяпер ведаю, што яе клопаты былі дарэмныя. Памылілася, бедная, хаця мела самыя найлепшыя намеры.

Міністэрства сельскай гаспадаркі таксама памылілася, маючы яшчэ больш высакародныя намеры. Разаслала яно сваім падуладным адміністрацыйным адзінкам такое вось распараджэнне:

**ТЭРМІНОВАЕ**

У сувязі з прадбачваннямі ПІГ-М адносна сухога перыяду ў месяцы маі г. г., Міністэрства сельскай гаспадаркі, Дэпартамент водных меліярацый звяртае ўвагу на неабходнасць выкарыстання ўсялякага абсталявання для наваднення. Дзеля гэтага трэба неадкладна паведаміць меліярацыйную службу павятовых рад нарадовых аб абавязку пастаяннага навадненця на прыстасаваных да гэтага меліярацыйных аб'ектах.

Аддзелы водных меліярацый павінны правесці мясцовую інспекцыю з мэтай кантролю дакладнага выканання гэтага распараджэння».

«Міністэрства сельскай гаспадаркі, Дэпартамент водных меліярацый. Л. дз. ВНКЦ 6/3/62, Варшава, 26. IV. 1962 г.

Што ж мог зрабіць, напрыклад, кіраўнік аддзела водных меліярацый, атрымаўшы гэтакае распараджэнне? Яно ж — не просьба хлебароба аб ільгоце ў сельсканалогах, якую проста можна кінуць у шуфляду і забыць пра ўсё. Гэта ж распараджэнне Міністэрства!

Усе застаўкі, вязы і перамычкі запламбавана на глуха і пад пагрозай Пакаральнай калегіі нельга было селяніну нават пальцам да іх даткнуцца. Працаўнікі аддзелаў водных меліярацый, нягледзячы на раскіслыя сенажаці і на няспынны лівень, з бязмежнай ахвярнасцю асабіста на месцы пільна даглядалі дакладнага выканання «гэтага распараджэння».

А тымчасам лівень не спыняўся. Сяляне са страхам узіраліся на затопленыя сенажаці, на раскіслыя палі і... чорная кроў іх самых залівала. Шлі да сваіх грамадскіх улад, тыя адсылалі іх у павет, а ў павеце кожны раз выслухоўвалі адзін і той жа адказ:

— Не, нельга, маем распараджэнне...

Хмары закрывалі неба, як усе памятаюць, да канца мая і да канца мая ніякая сіла, нават пры сур'ёзнай дапамозе грозна наплываючых хваль вады не змагла прабіць муру, які вырас на аснове міністэрыяльнага распараджэння вакол меліярацыйных абсталяванняў. Трэба было аж інтэрвенцыі партыйных інстанцый, каб гэтае ж распараджэнне пад канец мая ўрэшце было адменена.

На аснове сказанага можна зрабіць вывад, што найлепш будзе і цётцы Яўдокіі і Міністэрству сельскай гаспадаркі сваіх «распараджэнняў» не абаснуваць толькі на прадбачваннях варажбітаў. Бо мур, які б ён не быў, лепш увогуле не прабіваць.

**М. НУРЭЦКІ**

(Працяг са стар. 3).

— Барані Божа, вы не так мяне зразумелі! Трэба быць сапраўды святым, каб устаяць супроць прыгожай жанчыны.

Заўгель нахіліўся да свайго начальніка і нешта шапнуў яму на вуха. Мілер зарагатаў.

— Хочаце крыху павесяліцца, святы Антоні? — раптам запрапанаваў ён.

— Гледзячы, як...

— Гер Заўгель, тую францужанку з Банвіля вы ўжо дапытвалі?

— Другая стадыя! — кінуў той, гікнуўшы.

— Я не разумею, пра што гутарка? — насцярожыўся Генрых.

— Гер Заўгель распрацаваў свой метад дапытвання. Ён мае тры стадыі: першая — унутраная апрацоўка, другая стадыя — знешняя, а трэцяя — камбінацыя з двух першых, — смяючыся, вытлумачыў Мілер.

— І што дала ваша апрацоўка, гер Заўгель? Жанчына прызналася? — спытаў Генрых.

Заўгель незадаволена паморшчыўся.

— Пакуль не, але гэта мяне не турбуе, да другой стадыі апрацоўкі мы толькі што прыступілі!

— Але жанчына можа быць невінаватай.

— Дарагі Генрых! — сказаў Мілер. — Вам трэба



ведаць, што з гестапа чалавек можа трапіць або на той свет, або ў канцлагер. Канцлагера паблізу няма. Такім чынам застаецца адно выйсце. І на месцы Заўгеля я б з ёю не вазіўся. Гэту, праўда, шкада адпусціць, не прыгалубіўшы, — вельмі ж прыгожая.

— Прыгожая жанчына, і вы мне яе не паказваеце!

— Гер Заўгель, барон мае рацыю. Дайце загад!

Неўзабаве ў кабінет прывялі Людвіну Дэкок.

— Ма-мадам, можаце сесці! — сказаў Заўгель. — Я запрасіў вас не на допыт, а... а на памінкі. Згодзіцеся, вельмі ветліва! І арыгінальна запрасіць даму на памінкі па яе ўласнай душы!

Жанчына не варухнулася. Здавалася, што яна не чула Заўгеля, не бачыла ўсіх прысутных у пакоі.

— Ах, вы ганьбуеце!

Мілер падбег да свайго намесніка.

— Я ж казаў вам, няма чаго з ёй вазіцца. Адвязіце на абрыў і... — Мілер шчоўкнуў пальцамі, імітуючы выстрал, — і, як заўсёды...

— Так, так, на абрыў, на абрыў! — выгукнуў істэрычна Заўгель.

Жанчына стаяла непарушна, быццам ішло не пра яе.

Мілер выняў з шуфляды нейкую кніжку.

— Вось рэестр, распішыцеся!



Заўгель схіліўся над кнігай. З-за яго спіны Генрых убачыў, як насупроць прозвішча Людвіны Дэкок з'явіліся тры словы:

«Прысуд выканана. Заўгель».

— Ганс! — штурхнуў Генрых Мілера. — Можна вас на хвіліну?

Мілер адышоў з Генрыхам ад стала.

— Ганс, дазвольце мне выканаць гэты прысуд! Ваш Заўгель надта п'яны і не зможа гэтага зрабіць. А мне гэтая жанчына падабаецца... вы мяне разумееце?

— А, святы Антоні не вытрымаў спакусы! Дык, калі ласка, весяліся, колькі хочаш! Хочаш астацца тут, ці павязеш да сябе? Толькі каб ніякая душа не ўбачыла!

— Будзь спакойным, у мяне ёсць ключ ад чорнага ўваходу.

— Прадбачлівы! — Мілер усміхнуўся. — І да ранку пастарайся ўсё закончыць! Заўгель, вытлумачце барону, дзе вы гэта робіце! Цьфу, ён ужо спіць! Ну, тады я сам табе раскажу. З нашага завулка ўгору ідзе дарога, проста да скалы над рэчкай. Ты ставіш яе на абрыве, страляеш або нават штурхаеш, і ніводная душа не даведаецца, каго тут пакарана смерцю.

(Працяг за тыдзень)




У Туркменіі ёсць раёны, якія не маюць прэснай вады. Яе туды завозяць. Каштуе гэта дарага. У сувязі з гэтым фізіка-тэхнічны інстытут Акадэміі навук Туркменскай ССР прыступіў да будаўніцтва ў пасёлку Амар-Ата першага ў краіне сонечнага апраснісцеля. У ім сонечныя прамені будуць перапарваць салёную ваду ў пару, якая пасля ахаладжэння ператворыцца ў прэсную ваду.

*

У Англіі нядаўна вучоныя правялі цікавыя доследы. Пладовыя дрэвы і расліны гародніны апырсквалі вадой дагэтуль, пакуль уся расліна не пакрылася тонкім слоем лёду. Аказалася, што цвет яблыні вынасіць марозы да 4,8 градуса па Цэльсію.

*

Некаторыя гатункі цэлюлозы вытрымліваюць тэмпературу да 230 градусаў на працягу 45 хвілін. Гэта дазволіла галандскім булачнікам выпякаць хлеб, загарнуўшы цеста ў цэлюлозную плёнку. Такі хлеб доўгі час захоўвае свежасць.

## Ці ведаеце вы?

■ што ў нашай атмасферы 28.000.000 тон пылу, які пастаянна прыцягваецца ў атмасферу з сусветнай прасторы. Касмічны пыл паступова асядае на паверхню зямлі.

*

■ што ў Антарктыдзе столькі лёду, што ім можна пакрыць усю паверхню зямнога шара слоем таўшчынёй 85 метраў.

*

■ што 26 ліпеня 1958 года на станцыі «Усход» у Антарктыдзе савецкімі вучонымі зарэгістравана тэмпература мінус 87,4 градуса. Гэта самая нізкая тэмпература, якая назіралася на зямным шары.

*

■ што сто мільёнаў атамаў, размешчаных ланцужком, займуць не больш 1 см. даўжынёю.

*

■ што сярэдняя гадавая тэмпература паветра ў Еўропе за апошнія дзесяцігоддзі ўвесь час павышаецца. У выніку ледавікі Скандынаўскага паўвострава адступаюць з хуткасцю некалькіх соцень метраў за год.

*

■ што звычайныя пчаліны вулей улетку можа быць жыллём для шасцідзесяці тысяч пчол.

## СУШКА ЯГАД

Можна нарыхтаваць на зіму сушаную маліну, чорныя парэчкі, суніцы, чарніцы. Ягады перабіраць і прамываць у вадзе. Суніцы, маліну і ажыну прамываць не трэба. Сушыць пры тэмпературы 35—40 градусаў. Вельмі важна хутка выдаляць з высыхаючых ягад паветра, насычанае вадзяной парай. Для гэтага можна абсталяваць простую прыточнаадточную вентыляцыю ў звычайнай рускай печы. На падпечы, у сярэдзіну і па вуглах кладуць цагліны, а на іх ставяць сіта з ягадамі. Пад заслонку таксама падстаўляюць дзве цагліны. Верхні край засланкі адгінаюць. Комін трымаюць прыадчыненым. Халоднае паветра праходзіць пад засланку і сіта, захапляе з сабою вільгаць і выходзіць праз адтуліну, утвораную адагнутым краем засланкі. У часе сушкі ягады некалькі разоў пераварочваюць і ўтрасаюць.

Маліну сушаць не зусім спелую, пры тэмпературы 60—65 градусаў, бо спелая маліна лёгка раскісае, клубніку, суніцы, парэчкі і агрэст сушаць пры тэмпературы 40—45 градусаў. Калі хочаце прыгатаваць сухі парашок з ягад, то іх трэба крыху перасушыць, каб яны лёгка расціраліся.

## На вуліцах СТАМБУЛА

Як сабе хочаце, аднак ёсць у гэтых мінарэтах нешта такое, што намнога перавышае імкненне гатычнай архітэктуры звольніцца ад матэрыяльнасці і падняцца як мага вышэй да неба. Зараз у Стамбуле самай прыгожай мячэццю лічыцца Сіняя мячэць. У ёй адбываюцца самыя ўрачыстыя набажэнствы ў прысутнасці султанаў. Тут заўсёды ў Сіняй мячэці адзначаліся дні нараджэння прарока. У ёй 260 рознаколерных вокан. Падлога мячэці вылажана сінімі плыткамі і гэта надае з рознаколернымі шыбамі захапляючы выгляд.

Стамбул — паўтарамільённы горад, вельмі багаты мусульманскімі святынямі і па-свойму даволі цікавы. Будынкі Стамбула рознаколерныя. У іх многа балконаў. Горад размясціўся над пралівам Босфар і гэта дадае яму яшчэ большай прыгажосці. Слова «босфар» у перакладзе з грэчаскай мовы абазначае — каровін брод.

Турэцкія шафёры любяць гукаспалучэнні. Звычайныя гукі сігналаў іх не задавальняюць. Іх клаксоны найгрываюць розныя мелодыі, спяваюць, выюць на манер пажарнай сірэны, даюць гукі, якія нічым не адрозніваюцца ад гукаў паравоза.

Ёсць у турэцкіх шафёраў і іншая страсць. Яны ўпрыгожваюць машыны не толькі рознымі талісманамі, але таксама імёнамі і рознымі надпісамі. Найбольш распаўсюджаны надпіс на аўтобусах «Машаалах!», — «Захавай мяне Бог!».



Стамбульскі прадавец ліманады.



Адна з Стамбульскіх мячэцяў.

## Сельская гаспадарка без таямніц

## Кормнік у 300 ці 100 кг?

Знешні выгляд бывае падманлівы. І то даволі часта. Нам выдаецца, што ўсё добра, усё проста і ясна, а потым аказваецца, што не так яно.

Напрыклад, выкормліванне свіней. У Бельскім павеце вы спаткаеце многіх гаспадароў, якія скажуць: — чым больш важыць парсюк, тым большы даход. Ну, і пахваляцца перад другімі ёсць чым.

Праўда, свіння вагой у 350 ці 400 кг — гэта штука не абы-якая. Можна такой хваліцца. І грошай за яе возьмецца нямала. Ёсць толькі адно «але». Ці такое выкармліванне аплачваецца? Інакш кажучы: ці кошт гадавання і кармлення бывае такі, што гаспадар атрымае даход?

Справа пачынае блытацца. Аказваецца, што гаспадар, які кармíць да 200—250 кг, не лічыцца з калькуляцыяй аплачваемасці прадукцыі. Звычайна кажа: праца дармовая, за бульбу не плачу — значыць тое, што дастану за кормніка — гэта мой чысты даход. Такое разважанне адсталае і няправільнае. **Калі хочам правільна аналізаваць кошт прадукцыі, трэба ўсё лічыць: корм, вартасць людской працы, амартызацыю будынкаў, страхоўку, выдаткі на лекара і лякарствы. Калі ўсё гэта параўняем з сумай за праданыя штукі, даведаемся, ці прадукцыя аплачваецца.**

Выкормліванне свіней у нас на Беласточчыне змяняецца даволі выразна. Змены датычаць перад усім часу адкормлівання. Усё часцей пераходзіцца з познага адкорму на ранні, галоўным чынам, на тлуста-мясны. Гэта правільны кірунак. Згодны з асновамі эканомікі і патрэбамі рынку.

У маштабе ваяводства кормішча ў сярэднім да 140 кг. Самыя цяжкія кормнікі дае Бельскі павет (у сярэднім 156 кг). Наша праца ідзе ў напрамку, каб сярэднюю вагу абніжыць да 100—120 кг. На такіх кормнікаў найбольшае запатрабаванне. На такі тавар чакае новая мясная фабрыка ў Беластоку.

Як навукова гэта пацвярджаецца? Цана мяса раўняецца больш-менш цане сала. А корму на прадукцыю 1 кг сала трэба 2—3 разы больш, чым на прадукцыю 1 кг мяса. Па-другое, чым кормнік маладзейшы, тым лепш выкарыстоўвае корм, а значыць і рост вагі праходзіць за меншы кошт.

Ёсць меркаванне, што больш-менш адзін кормнік вагой 150 кг з'ядае столькі корму, колькі 2 кормнікі па 100 кг. Спажыццё аўсяных адзінак на прыбыль 1 кг можа ўзрасці з 3 да 10.

Усё гэта ідзе на плюс для ранняга выкармлення. Нельга тады, каб прадукцыя засланяла здаровую развагу. І не толькі вачам верыць. Трэба ўмець лічыць, весці доследы, разважаць і рабіць вывады.

**Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ**

## Парады юрыста праўніка

## Падараванне і продаж

Нярэдкія на вёсцы здарэнні, што бацька, які хоча дараваць аднаму з дзяцей кусок зямлі, заключае з ім дагавор аб продажы зямлі. Справа ў тым, што вынікі ўмоў даравання і продажу розныя.

Напрыклад, дарыльшчык можа адклікаць даравізну, калі абдараваны акажацца няўдзячным. Абдараваны абавязаны дапамагаць дарыльшчыку, калі той знойдзецца ў цяжкай сітуацыі. Пасля смерці дарыльшчыка яго наследнікі маюць права патрабаваць залічэння дараванай рэчы ў склад спадчыны. У выніку аказваецца, што абдараваны апрача дару са спадчыны нічога не атрымае.

Іншая сітуацыя паўстае, калі зямля або іншая рэч проданы. Набыўца не мае ніякіх абавязкаў у адносінах да збыўцы, а пасля смерці збыўцы ніхто не мае права высоўваць перад набыўцам ніякіх патрабаванняў.

Таму часта здараецца, што, напрыклад, бацька заключае з сынам дагавор аб продажы, у якім сцвярджае, што дамоўленыя грошы атрымаў, хаця ў практыцы не атрымаў ад сына нічога, а проста хоча яму рэч дараваць.

Паводле абавязваючага закону ў гэткім выпадку дагавор аб продажы лічыцца няважным. Аднак гэткі дагавор не пазбаўлены значэння. Ён важны як дагавор даравізны, калі адпавядае фармальным вымогам, напрыклад, калі датычыць зямлі, дык ён павінен быць заключаны ў форме матэрыяльнага акту.

Зразумела, што той, хто хоча ўняважніць гэты дагавор, абавязаны даказаць, што ён знешні, паказны, а фактычна ўтойвае ў сябе даравізну. А гэта справа нялёгкая.

 

# Трыбуна чытачоў

## Растуць рады прафсаюзнай арганізацыі „Бэтэскі”

Нядаўна адбыўся агульны сход калектыву Прамыслова - гаспадарчага прадпрыемства «Бэтэска», прысвечаны працы мясцовай прафсаюзнай арганізацыі. З кароткай справаздачай з працы маладой яшчэ рады закладовай выступіў яе старшыня Збігнеў Мондры. У справаздачы сцвярджалася, што мясцовая прафсаюзная арганізацыя прыходзіць з вялікай дапамогай дырэктару «Бэтэскі», Пятру Ластаўцы, у вырашэнні ўсіх спраў, звязаных з вытворчасцю, а таксама матэрыяльных і сацыяльных спраў працаўнікоў прадпрыемства. — Яшчэ большую ролю магла б адыграць нашая арганізацыя, — сказаў грам. Мондры, — каб пастаянна ўзрастала колькасць яе членаў.

На заклік грам. Мондрага многія прысутныя на сходзе працаўнікі «Бэтэскі» выразілі ахвоту ўступіць у рады мясцовай прафсаюзнай арганізацыі.

Дырэктар «Бэтэскі» Пятро Ластаўка падзякаваў сваім працаўнікам за іх ахвярную працу. Аб добрай працы калектыву найлепш сведчыць той факт, што ўжо на пачатку чэрвеня г. г. выканана 150 % гадавога плана «Бэтэскі». «Нягледзячы на так высокае перавыкананне гадавога плана, — сцвердзіў дыр. Ластаўка, — не ўсе працаўнікі «Бэтэскі» працуюць аднолькава». Таму дырэктар «Бэтэскі» заапеляваў да ўсіх працаўнікоў, каб усе свае сілы і намаганні аддалі справе штораз большага развіцця прадпрыемства, якое прыносіць карысць не толькі Беларускаму Таварыству, але і ўсёй нашай дзяржаве.

Ад імя Беларускага Таварыства прывітанні і найлепшыя пажаданні ў працы і асабістым жыцці калектыву «Бэтэскі» перадалі старшыня Рэвізійнай камісіі Ф. Галёнка і член ГП БГКТ В. Швед.

**В. Ш.**

## Майстэрства сялянскіх рук

Тодару Сегеню, які пражывае зараз у вёсцы Рэпіскі, Гайнаўскага павета, 80 год. Усе ведаюць яго як здольнага і кемлівага майстра. Вось ужо 40 год «ідзе» зроблены ім гадзіннік, які знаходзіцца на яго хаце. На адлегласці двух кіламетраў чуваць бой гэтага гадзінніка, які адзначае гадзіны і паўгадзіны. Уявіце, Т. Сегень пры яго канструкцыі карыстаўся толькі зубіламі, свідравальнай машынкай, пільнікам і пілкай.

**В. С.**



На здымку: хата Т. Сегеня з гадзіннікам.

## Прыемны візіт

Надта ж усцешыліся жыхары Дубіч-Царкоўных, калі даведаліся, што іх вёску 1 чэрвеня наведае кіно з Ваяводскага праўлення ТППР у Беластоку. Гэта ж першы таго роду візіт. Яшчэ сонца стаяла высока, а ўжо на школьным панадворку сабраўся вялікі натоўп людзей ,а сярод іх найбольш, зразумела, было дзяцей і моладзі.

Дакладна а 21.00 гадз. з'явіўся «Віліс» з фільмам.

Перад дэманстрацыяй фільма з кароткай прамовай выступіў рэд. «Нівы» Васіль Баршчэўскі. Пасля яго выступлення ўсе захапляліся кінакарцінай «Калі замоўкнуць гарматы». Вось добра было б, каб да нас часцей прыязджалі з такімі фільмамі.

Ад імя жыхароў сваёй вёскі складаю сардэчную падзяку Ваяводскаму праўленню ТППР, рэд. В. Баршчэўскаму, што наведалі нас.

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

## Наведваем бібліятэку ў Ахрымах

Вёска Ахрымы, Гайнаўскага павета, мае шмат гаспадароў. У вёсцы ёсць крама, пачатковая школа (чатырохкласная) і нядаўна заснаваўся бібліятэчны пункт. Хачу зараз прысвяціць крыху ўвагі, менавіта, бібліятэчнаму пункту.

У бібліятэцы ў Ахрымах ёсць каля 100 тамоў кніг. У гэтым ліку ёсць беларускія выданні і кнігі на сельскагаспадарчыя тэмы, а таксама мастацкія творы на польскай мове. За апошні час колькасць чытачоў павялічылася да 45 асоб (што раўняецца амаль аднаму чытачу з кожнай хаты). Сярод наведвальнікаў вясковай бібліятэкі маем і чытачоў — выдатнікаў. Аднак такія пастаянныя чытачы пераважаюць з асяроддзя моладзі. У яе тут вялікая прага да чытання. За зімовыя месяцы яны прачыталі найбольшую колькасць кніжак. Сярод чытачоў ёсць і пажылыя людзі. Загадчыцай нашай бібліятэкі з'яўляецца Іра Адамюк — вучаніца восьмага класа. Ірка (так найчасцей яе называюць) кіравала бібліятэкай і ў зімовы час. Нягледзячы на свой малады ўзрост яна выдатна выконвае абавязкі, з'яўляецца ветлівай для наведвальнікаў бібліятэкі.

Чым тлумачыцца, што тут кнігі карыстаюцца даволі вялікім поспехам? Перш за ўсё тым, што можна іх пазычаць кожнага дня, а нават і вечарам. Бібліятэка змяшчаецца ў доме Ірыных бацькоў. Сюды найчасцей вечарамі сходзяцца жыхары вёскі. Іх гутаркі не абмяжоўваюцца толькі сельскагаспадарчымі справамі, ці пагодай, але ідзе размова таксама аб падзеях у краіне і па-за яе межамі. Тут наведвальнікі могуць паслухаць радыёперадачы. Ірка часта ўключаецца ў размову і, напрыклад, раіць прачытаць тую ці іншую кнігу, растлумачвае якую яна прынясе карысць.

На мой погляд усё тут добра выглядае, але яшчэ лепш было б, каб у нашым бібліятэчным пункце павялічыўся кніжны фонд — асабліва беларускі. Вось добра было б бачыць тут часопісы і газеты: «Ніву», «Беластоцкую газету», «Беларусь», «Маладосць», «Вожык» і іншыя.

**ЯНКА ЦЯЛУШЭЦКІ**
Новае Ляўкова

## Сяляне — гуртkоўцы

Жыхары вёскі Ласінка, Гайнаўскага павета, незаўсёды добра працавалі на сваёй зямлі. Многія нават занядбоўвалі гаспадарку. І вось у мінулым годзе заснаваўся ў нашай вёсцы сельскагаспадарчы гурток, які выдатна палепшыў сітуацыю. Зараз ён налічвае каля 30 гаспадароў. Тыя сяляне, якія яшчэ не належаць да гуртка, гаспадараць па-колішняму, але і яны напэўна зразумеюць, што можа ім даць сельскагаспадарчы гурток.

Восенню 1961 г. наш гурток атрымаў малацільны агрэгат і рухавік. І на пачатку зімы 1961—62 г. г. у вёсцы пачуўся гук сельскагаспадарчай машыны. Большая частка жыхароў вёскі пакінула ўжо малаціць цэпам.

Вельмі прыемна было б, каб на наступны год, вясною, усе выйшлі ў поле, як члены сельскагаспадарчага гуртка.

**ЯНКА КЕРСНОЎСКІ**
Ласінка

## На вясковай сцэне

Працяг са стар. 3

рэнькай бабулькі, і чуваць бурныя апладысменты.

Гэта не ўсё, — гаворыць кіраўнік драмгуртка. — За хвіліну ўбачыце сцэну «Суседка» — Пальчэўскага.

Была даволі позная гадзіна, аднак людзі не разыходзіліся. З цікавасцю прыглядаліся новым артыстам. Не можна тут папракнуць ніводнага артыста. Сказаць можна толькі, што ўсе добра выконвалі свае ролі. Галоўную ролю суседкі грала Оля Семяцка, а Сымона Рыгэравіча — Васіль Якімюк.

Але ўсяму ёсць канец. Таксама і тут. Людзі задаволеныя са сваёй Чыжоўскай моладзі пайшлі адпачываць. А маладыя? Яны поўныя сілы і энергіі пайшлі пара за парай у танцы. Вельмі прыемная вечарынка ў роднай вёсцы працягнулася доўга.

Драмгурток з Чыжоў працуе ад новага года (1962). Налічвае 23 удзельнікі. Зусім здаецца малады, але мае вялікія дасягненні ў гэтай галіне. Выступаў у Чыжах 6 разоў, браў удзел ва ўсіх акадэміях, выступаў у Збучы, Белавежы, на фестыне, на павятовым аглядзе драматычных гурткоў у Гайнаўцы. У іх праграме не толькі пастаноўкі, але і песні беларускія, польскія, рускія і украінскія, танцы, гумар, сатыра, вершы В. Шведа. Зарабілі на свае патрэбы. За ўласныя грошы закупілі спаднічкі для дзяўчат.

Жадаем гуртkоўцам з Чыжоў далейшых поспехаў, а ўсе іншыя гурткі на Гайнаўшчыне заклікаем пайсці ў след за Чыжамі.

Пытаю кіраўніка Генрыку Кульчакевіч: — Што натхнула Вас да працы ў нашым гуртку?

— Нягледзячы на мае гады і сямейныя абавязкі заўсёды адчуваю сябе маладой і не расстаюся ніколі з моладдзю сваёй вёскі, у якой жыву ўжо 11 год. Я так моцна з імі зжылася, што калі не бачу іх некалькі дзён — вельмі сумую. Вельмі люблю работу у мастацкім гуртку, хоць сустракаюся з вялікімі труднасцямі, бо не знаю беларускай мовы. Найбольш цешыць мяне, калі артысты выконваюць свае ролі вельмі добра, а гледачы б'юць доўга ў далоні. На будучыню хачу, каб мае артысты не разлучаліся са сцэнай, лепей гралі, каб мы ўзбагаціліся ў строі і рэпертуар.

— Якое здарэнне найбольш асталася ў памяці? — пытаю артыстку Надзю Сямяцкую.

— Калі грала ролю Ірыны ў пастаноўцы «Жыць на гэтым свеце», я смела выступіла ў выконванні гэтай ролі. Гэта было мае першае выступленне ў Збучы. Аднак, пасля выступлення пачула, што мяне вельмі клянуць бабы за мае вострае выступленне супраць Бога. Гэтыя людзі не зразумелі сэнсу гэтай сцэны. Нягледзячы на ўсё, я была вельмі рада, што мне дарчылі выконваць так важную ролю. Мае мары на будучыню ніколі не расставацца з мастацкім гуртком і заўсёды іграць на сцэне лёгкія, гумарыстычныя ролі.

**В. ЮШЧУК**




**Праграма ад 16—22. VII. 1962 г.**

**ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ**

**Белавежа**
„Katastrofa” (węgierski), 17—19. „Wyrok” (polski), 20—22.

**Кляшчэлі**
„Kłopoty z miłością” (NRD), 17—19. „Przed nami zakręt” (radziecki), 20—22.

**Навасады**
„Dotknięcie nocy” (polski), 21—22.

**Нараў**
„Zaduszki” (polski), 18—22.

**Нараўка**
„Salwa o świcie” (radz.), 14—15.

**Чаромуха**
„Taka miłość” (węgierski), 17—19. „Alba Regia” (jugosł.), 20—22.

**Чыжы**
„Dziewiąty krąg” (jugosł.), 18—22.

**БЕЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Боцькі**
„Daleki ukochany” (radz.), 18—22.

**Бранск**
„Marysia i krasnoludki” (polski), 17—19. „Długa noc 1943” (włoski), 20—22.

**Гродзіск**
„Nafta” (polski), 21—22.

**БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ**

**Гарадок**
„Czekajcie na listy” (radz.), 17—19. „Alba Regia” (jugosł.), 20—22.

**Міхалова**
„Człowiek z za biurka” (włoski), 17—19. „Pokój przychodzącemu na świat” (radz.), 20—22.

**Супрасль**
„Przeciwnicy” (węgierski), 17—19. „Samolot odlatuje” (radz.), 20—22.

**Чорна Весь**
„Dzień powszedni” (NRD), 17—19. „Opuszczeni” (włoski), 20—22.

**СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ**

**Мельнік**
„Drzwi stoją otworem” (jugosłowiański), 17—19. „Gorsza miłość (węgierski), 20—22.

**Мілейчыцы**
„Kłopoty z miłością” (NRD), 17—19. „Tajemnica szyfru” (rumuński), 20—22.

**Нурэц**
„Słońce wschodzi nad Bengalem” (pakistański), 17—19. „Pokój przychodzącemu na świat” (radz.), 20—22.

**САКОЛЬСКІ ПАВЕТ**

**Крынкі**
„100 kilometrów” (włoski), 17—19. „Zmartwychwstanie” (radziecki), 20—22.

**Янаў**
„Tajemnica starej kopalni” (ang.), 17—19. „Skok o świcie” (radz.), 20—22.

**ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ**

**Ліпск**
„Tu radio Gliwice” (NRD), 21—22.
„Człowiek ze słomy” (włoski), 21—22.

У мясцовасцях Орля, Райск, Шудзялава, Сухаволя, Ружаны Сток у днях ад 16—22. VII фільмы высвятляцца не будуць.


# Ніва

**Adres redakcji:** Białystok, ul. Wesołowskiego 1.
**Telefony:** red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 49.
**Warunki prenumeraty:** miesięcznie — 2.40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch” Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma.
Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch” Warszawa ul. Wilcza 46 Nr konta PKO 1-5-100024
Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona” Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.
Nakład 5000 Bitk F-2




 






— Капітан, колькі найбліжэйшым шляхам да Зямлі?
— 5 кіламетраў.
— А ў які бок?
— Уніз!

### РАЗМОВА З ГЛУХІМ

— Здароў, Куба!
— Але, пілую дуба.
— А ты не бачыў маёй каровы?
— Або я ведаю, мо' ён і здаровы?
— Куба, што з табою, ці ты аглох?
— Мушу пілаваць сам, няма з кім удвох.
— Ці ты даўно стаў недачуваць?
— Ну, пэўна, што дамоў пайду начаваць.

Прыслала Тамара Дзенісюк

### ХІТРЫ САЛДАТ

Аднойчы салдата і цыгана ў падарожжы застала ноч. На вячэру мелі яны толькі адну курыцу. Цыган хацеў з'есці сам і сказаў: — Каму прысніцца лепшы сон той з'есць курыцу. Ляглі спаць. Цыган адразу пачаў прыдумоўваць сон, а салдат за гэты час з'еў курыцу і пайшоў спаць. Калі прачнуліся, цыган пачаў расказваць свой прыгожы сон. Кажа: Сніліся мне, што я палез на неба, як там было добра. Салдат сказаў: — Я бачыў як ты палез на неба і падумаў, што ты не вернешся, і з'еў курыцу.

Прыслаў Мікалай Янюк

## КУРЬЁЗЫ

### «ЗМЯКЧАЮЧЫЯ» АКАЛІЧНАСЦІ

«Змякчаючыя» акалічнасці

Англійскі суддзя Арфольд у свой час карыстаўся славай аднаго з лепшых ігракоў у рэгбі. Неяк яму прыйшлося старшынстваваць на судовым працэсе супраць аднаго лонданскага докера, які абвінавачваўся ва ўчыненні скандальнай бойкі ў грамадскім месцы.

Пяць праціўнікаў падсудны збіў з ног, астатнія чацвёра кінуліся на ўцёкі. Калі суддзя спытаў, як яму ўдалося атрымаць верх пры такой вялікай пераважэ сіл не ў яго карысць, той адказаў:

— Дык я ж, ваша міласць, часта бываў на стадыёне, калі вы ігралі там у рэгбі, і таму сяму навучыўся!



— Хутка, лекара! Схапіла мяне сутарга і не магу апусціць рукі.

### АЛЕСЬ МАХНАЧ

## Няштатная пасада

Асёл нахмурыў гнеўна лоб —
Яго назвалі бюракратам:
«Мана! — ускрыкнуў ён. — Паклёп!
Пасады гэтакай няма па штату!».




### У СУДЗЕ

Суддзя да сведка: — Ці вы бачылі, як гэты чалавек біў жонку?

Сведак: — Я толькі бачыў, як ён у лесе рубаў дубчака на жонку.

Прыслаў М. Анікіюк

### ШТО ЯНА ЗРАБІЛА?

Аднойчы да бабулі на вёску прыехала гарадская ўнучка. Убачыўшы на панадворку свінню, яна пытае:

— Што гэта такое, бабулю?
— Свіння, — адказвае бабуля.
— А што яна такое зрабіла? — дапытваецца ўнучка.

Прыслаў Сяргей Аўсейчук

### У АЎТОБУСЕ

Старэйшая жанчына звяртае ўвагу вучню:

— Ці ў вас у школе вучаць, што трэба уступіць месца старэйшым?
— Так, але цяпер у нас канікулы.

Прыслаў Янка Данільчук



### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Анны Гжэгорчук з Заёнчкаў, Беластоцкага павета, і Паўла Харкевіча з Ляшукоў, Гайнаўскага павета, змяшчаем беларускую песню.

## ЛЯСНАЯ ПЕСНЯ

Словы А. Русака Музыка Ул. Алоўнікава



Ой, бярозы ды сосны, —
Мае родныя сёстры,
Ой, шумлівы ты лес малады.
Толькі сэрцам пачую
Тваю песню лясную, —
Ды успомню былыя гады.

Ды успомню пажары,
І варожыя хмары,
І завеі халодных вятроў,
І слату і нягоды,
І начныя паходы,
І агні партызанскіх кастроў.

Край любімы мой родны,
Ты на свеце свабодны,
За цябе я на бітву хадзіў,
Каб ніколі, ніколі
Ты не быў у няволі,
Каб прыгожымі кветкамі цвіў.

Адышлі тыя годы,
Адгрымелі паходы,
Толькі пушча за полем шуміць.
Ой, бярозы ды сосны, —
Партызанскія сёстры,
Вас ніколі ў жыцці не забыць.



Без слоў...

## КАЎБАСА

Трапіла мне ў рукі кніжка, выдадзеная ў Мінску п. з. «Каўбасныя вырабы».

Прызнаюся, чытаў я яе запоем, бы крымінальны раман і выраршыў падзяліцца прачытаным з нашымі чытачамі.

Вы ўжо напэўна самі здагадаліся, што ў кніжцы апісваецца, як рабіць каўбасы і прызначана яна для працаўнікоў мяснoй прамысловасці.

Выбачайце, людзі добрыя, за доўгую прадмову, але зрабіць каўбасу, гэта не семкі падсмажыць.

Вось, напрыклад, рацэпт каўбасы «Польскай». Свіной грудзінкі 30, свініны тлустай 20, ялавічыны 30, соль, часнок, гарчычнае семя 5, віно 15.

Падобнай каўбасы ў нас не зробіць. Нашы каўбаснікі — курачыя дзеці, самі вып'юць віно, а каўбасу вадой напампуюць.

Цялячая каўбаса вырабляецца з высокаякаснага мяса з дадаткам кардамана, мускатных арэхаў і фісташак. Нашы майстры і чаляднікі дулю нам дадуць, а не фісташкі. Напхаюць у каўбасу заменнікаў — накупталт жолудзяў, а фісташкі самі з'ядзяць, або сваім дзецям занясуць.

У паштэтную каўбасу ўваходзіць ялавічная і свіная печань, саланіна, слівачнае масла і яйкі. Наша паштэтная каўбаса змяшчае: печані 15%, лёгкіх 30%, маннай кашы 20%, вады 20%, саланіны 10%. Рэшта — соль, чырвоны перац і пажаданні прыемнага апетыту.

Зразумела, з гэтага нельга рабіць вывадаў, што ў нас не патрапяць рабіць каўбасных вырабаў. Прошта зацясаўся ў мясную прамысловасць спецыяліст-каўбаснік па прафесіі і партач у практыцы і выдумаў рацэпт, як з кілаграма мяса зрабіць тры кілаграмы каўбас.

З якасцю ў нас атрымліваецца, бы ў майго дзядзькі з баршчом.

Раскажу вам гэту гісторыю.

Майго дзядзьку мабілізавалі ў царскую армію. Вядома, хто ўмеў, выкручваўся ад страявой службы.

Мой дзядзька аб'явіў сябе кухарам, а палкоўнік якраз шукаў дзяншчыка-кухара.

У першы дзень на новай пасадзе і ўпершыню ў жыцці дзядзька прыняўся варыць боршч.

Калі абед быў пададзены, палкоўнік паклікаў дзядзьку:

— Скажы, калі ласка, што гэта за бурда? — спытаў ён, паказваючы на талерку.

— Гэта ірландскі боршч, ваша высокароддзе, — выпаліў дзядзька.

— Ірландскі?.. Такога яшчэ не каштаваў! Ну, ідзі, галубчык, — дружалюбна адпусціў палкоўнік.

Аказваецца, пры дрэннай якасці добрае вытлумачэнне ўсе грахі змазвае.

Падазраваю, што нябожчык дзядзька меў шырокія знаёмствы і ад яго гэта навука распаўсюдзілася.

Дзядзька Лявон